**СОНЦА:**
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 7.05, 16.41, 9.36;
Віцебск — 6.59, 16.28, 9.29;
Магілёў — 6.54, 16.31, 9.37;
Гомель — 6.50, 16.30, 9.40;
Гродна — 7.22, 16.55, 9.33;
Брэст — 7.16, 17.02, 9.46.
**МЕСЯЦ:**
Маладзік 25 кастрычніка
Імяніны
Андрэя, Антона, Кузьмы, Дзям'яна, Лявонція, Лазара.



# ЗВЯЗДА

30 КАСТРЫЧНІКА 1992 г. пятніца, № 220 (21998)



● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

## ВОЗГАЛАС

### ПАЧЫМ ЖЫЛЛЁ Ў МІНСКУ?

Мінск ужо даўно стаў сталіцай СНД. І як вынік, у ім рэзка павялічылася колькасць жадаючых набыць часова ці назаўсёды свой куток. Але зрабіць гэта не так проста. Акрамя таго, што няма жылля, у многіх адсутнічае штамп у пашпарце. Прапіска, значыць.

Але пры жаданні ўсяго можна дабіцца. Так, па неафіцыяльных даных, мінская прапіска каштуе сёння 10—15 тысяч рублёў. Аплата аднапакаёвай кватэры — ад 3 да 6 тысяч. Можна, канешне, уладкавацца і больш сціпла — на кватэры ў гаспадароў. Пакой на ўскраіне Мінска каштуе 800—1000 рублёў у месяц, у цэнтры — 1,5—2 тысячы.

Так што былі б грошы, а жыллё знойдзецца.

### НАСТАЎНІКІ НАСТРОЕНЫ РАШУЧА

Учора адбыўся пленум Рэспубліканскага камітэта прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі Беларусі.

З усяе рэспублікі з'еxаліся педагагічныя работнікі, каб падрабязна прааналізаваць тую гранічна напружаную атмасферу, што склалася ў педагагічных калектывах Беларусі ў сувязі з невыкананнем арт. 34 Закона аб адукацыі, вызначыць шляхі далейшых дзеянняў. І канкрэтна: ці праводзіць забастоўку ў выпадку, калі сітуацыя не зменіцца?

Педработнікі былі настроены рашуча і эмацыянальна. Шмат пытанняў (нярэдка рытарычных) было зададзена імі прама ад мікрафонаў у зале. Напрыклад:

— Рашэнне аб тэрмінах уводу Закона аб адукацыі было прынята ў красавіку — прайшло паўгода, і толькі зараз, калі педагагічная грамадскасць выйшла на мяжу забастоўкі, пачалі думаць: няма механізму рэалізацыі закона?

— Калі ўрад не выконвае Закон, як можна патрабаваць выканання закона ад іншых?

— У любой краіне настаўнік — гэта эліта, гэта розум народа.. А я, настаўніца, не магу дазволіць сабе элементарнага: кнігу купіць, выпісаць газету.

— Настаўнік апынуўся на базары (нават на айчынным) — побач з вучнем-двоешнікам, ён гандлюе... Самыя таленавітыя настаўнікі ідуць са школы.

— Можа, увесці платную адукацыю — тады настаўнік выйдзе з жабрацкага становішча?

Міністр адукацыі РБ В. А. Гайсёнак прыйшоў пазней: знаходзіўся на сесіі ВС — чакаючы, што будзе разглядацца «адукацыйнае пытанне».

— Віна Міністэрства адукацыі — што не паставілі своечасова пытанне аб механізме ўвядзення арт. 34 Закона аб адукацыі, — прызнаўся міністр. — Сёння настаўніцтва ўсім прадэманстравала, што яно згуртаванае і з'яднанае, што яно паважае закон і патрабуе гэтага ад іншых.

Пленум прыняў пастанову, у якой — патрабаванне да Саўміна Беларусі неадкладна ўвесці ў поўным аб'ёме арт. 34 Закона аб адукацыі, адпаведны зварот да Вярхоўнага Савета Беларусі.

Ці будзе настаўніцкая забастоўка? Гэта пытанне хвалюе зараз і вучняў, і бацькоў. У выпадку невыканання ўрадам Закона аб адукацыі, педработнікі пачнуць рыхтавацца да ўсеагульнай нацыянальнай забастоўкі. Але ад калектыўных дзеянняў забастовачнага характару на час правядзення перагавораў з урадам вырашана ўстрымацца.

**Таццяна ПАДАЛЯК.**

### ...І 10 КАПЕЕК НА КАРЫСЦЬ ПАСАЖЫРА

**Менавіта такім чынам паставіў кропкі над «і» міністр аўтатранспарту Беларусі Уладзімір Бародзіч пасля таго, як ВА «Мінскпасажыраўтатранс» звярнулася да яго з просьбай павысіць аплату за праезд у аўтатранспарце. Як ужо ведаюць нашы чытачы, з 20 кастрычніка на міжгародніх перавозках цэны падскочылі ўдвая. Але міністр усё-такі «падпісаў» 10 капеек на карысць пасажыра, г. зн. не 1 рубель 10 капеек за кіламетр у мяккім аўтобусе і не рубель у жорсткім на міжгародніх перавозках плаціць цяпер пасажыр (як таго дамагаліся ў аб'яднанні «Мінскпасажыраўтатранс»), а на 10 капеек менш.**

**Дарэчы, з 28 кастрычніка на прыгарадных маршрутах пасажыраў таксама чакаў сюрпрыз. Праўда, і тут 10 капеек скінуты «на баранкі»—замест рубля за кіламетр бярэцца 90 капеек. У горадзе кошт праезду пакуль што не змяніўся.**

**— Калі такая аплата акажацца стратнай для аб'яднання, заявіў галоўны эканаміст «Мінскпасажыраўтатранса» В. Новік, —то будзе скарочана колькасць рэйсаў**

**У сваю чаргу павышэнне аплаты за праезд паўплывала-такі на змяншэнне колькасці пасажыраў. Сёння, паводле слоў Новіка, на міжгародніх перавозках іх зменшылася на 20 працэнтаў.**

**А. РАМАНОВІЧ, Мінск.**

### Мінск—Мекка прадпрымальніцтва?

Еўрапейская асацыяцыя па эканоміцы і кіраванню прадпрыемствамі (АЕДЕМ) аб'ядноўвае спецыялістаў-практыкаў, а таксама выкладчыкаў вышэйшай школы, вучоных, якія заняты ў гэтай галіне. У маі бягучага года ў іспанскім горадзе Уэльва-Сельвія адбыўся І кангрэс АЕДЕМ, у якім прымалі ўдзел прадстаўнікі Балгарыі, Венгрыі, Англіі, Партугаліі, Румыніі, Іспаніі, Францыі і Беларусі. На тым кангрэсе прыняты Статут і выбраны кіруючыя органы АЕДЕМ. Прыемна, што ў кіруючы Савет гэтай арганізацыі быў выбраны прадстаўнік нашай рэспублікі — прафесар, загадчык кафедры аўтаматызаваных сістэм кіравання Белдзяржуніверсітэта В. Краснапрошын, а яшчэ 15 беларускіх спецыялістаў сталі паўнапраўнымі членамі гэтай асацыяцыі.

Нядаўна ў Мінску быў створаны рэгіянальны філіял АЕДЕМ. Прынята таксама рашэнне аб правядзенні ў верасні 1993 года ў сталіцы нашай рэспублікі II кангрэса Еўрапейскай асацыяцыі.

Днямі ў Мінск прыбыла група кіруючых работнікаў АЕДЕМ. Будуць прачытаны 20 лекцый па новых метадах кіравання, аналізу фінансавай сферы, маркетынгу.

**Раман ШАЎКО.**

НА СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## Парламент адмаўляе ў рэферэндуме, але згаджаецца на датэрміновыя выбары

Дыскусія народных дэпутатаў на тэму: быць ці не быць рэферэндуму завяршылася паіменным галасаваннем. 202 дэпутаты выказаліся за праект, прапанаваны Прэзідыумам Вярхоўнага Савета. У ім гаворыцца: «У сувязі з парушэннем артыкулаў 11 і 12 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь» адхіліць на падставе артыкула 14 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь» прапанову грамадзян Рэспублікі Беларусь аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму з фармулёўкай пытання: «Ці лічыце Вы неабходным правядзенне восенню 1992 года выбараў у вышэйшы орган дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусь на падставе Закона «Аб выбарах народных дэпутатаў Беларусі», праект якога ўнесены апазіцыяй БНФ у Вярхоўны Савет, і ў сувязі з гэтым датэрміновы роспуск цяперашняга Вярхоўнага Савета?»

На галасаванне быў пастаўлены і праект пастановы апазіцыі, які прадугледжвае правядзенне рэспубліканскага рэферэндуму 6 снежня 1992 года У яго падтрымку выказаліся 35 народных дэпутатаў.

Дарэчы, яшчэ да ўключэння электроннай сістэмы галасавання, удзельнікі сесіі пацікавіліся, які ж пункт гледжання па гэтаму пытанню ў Станіслава Шушкевіча. Кіраўнік парламента адказаў, што пры вынясенні пастановы Прэзідыума на абмеркаванне сесіі ён вымушаны быў падпарадкавацца большасці, аднак пры галасаванні мае намер устрымацца. У якасці аднаго з аргументаў ён назваў недастатковую падрыхтаванасць прапанаванай Прэзідыумам пастановы.

Аб гэтым гаварылі і многія дэпутаты. Размова, у прыватнасці, ішла аб адсутнасці ў пастанове пераліку канкрэтных парушэнняў заканадаўства аб рэферэндуме, не было канстатавана, кім іменна яны дапушчаны.

У перапынку паміж пасяджэннямі мы ўзялі кароткае інтэрв'ю ў лідэра апазіцыі Зянона Пазняка.

— Зянон Станіслававіч, у сераду на прэс-канферэнцыі вы сказалі, што ў апазіцыі ў выпадку адмовы Вярхоўным Саветам у правядзенні рэферэндуму ёсць свая стратэгія і тактыка. Ці прыйшоў час абнародаваць іх?

— Не.

— Ці можна чакаць вашых нечаканых дзеянняў у сценах парламента?

— Мы не спяшаемся. Нічога экстраардынарнага тут не адбудзецца.

І пасля галасавання аб адмове ў правядзенні рэферэндуму страсці ў парламенце не ўціхлі. Паколькі наступны дакумент, які трэба было разглядзець дэпутатам, — праект заявы Вярхоўнага Савета аб неабходнасці паскарэння канстытуцыйных пераўтварэнняў у Рэспубліцы Беларусь і прыняцця новых выбарчых законаў. У ім, у прыватнасці, прапаноўвалася прыняць новую Канстытуцыю не пазней 1993 года. Быў у дакуменце і запіс аб правядзенні выбараў у новы вышэйшы орган дзяржаўнай улады рэспублікі ў сакавіку 1994 года.

Апошняе пытанне выклікала найбольш гарачыя спрэчкі. Паколькі, прыняўшы пастанову, цяперашні Вярхоўны Савет бярэ на сябе абавязацельства пайсці ў адстаўку на год раней за ўстаноўлены заканадаўствам тэрмін. Кіраўнік парламента Станіслаў Шушкевіч адкрыта сказаў, што прыняцце гэтага пункта заявы з'явіцца крокам насустрач тым людзям, якія хацелі ўдзельнічаць у рэферэндуме. Усім было ясна, што кампраміс магчымы. Аднак многія дэпутаты не адразу згадзіліся на гэта. А лідэры апазіцыі заявілі аб неканстытуцыйнасці такога рашэння.

Галасаваць прыйшлося два разы. І толькі пасля паўторнага дэпутаты пакінулі ў пастанове абзац аб новых выбарах. Аднак, на думку многіх з іх, такая заява не мае заканадаўчай сілы, і гэты крок парламента нікога ні да чога не абавязвае. Прынамсі, цяпер.

Парламенцкім дэбатам 29 кастрычніка папярэднічала выступленне перад дэпутатамі старшыні праўлення Нацыянальнага Банка Беларусі Станіслава Багданкевіча. Ён сказаў, што Беларусь, якая ўмее вырабляць нядрэнныя тавары, на жаль, так і не навучылася гандляваць. Менавіта гэтым прапікам можна растлумачыць адсутнасць у дзяржаўнай казне расійскіх грошай.

Расійскія прадпрыемствы заплацілі за выраблену ў Беларусі прадукцыю ўсяго 37 мільярдаў рублёў. А астатняя частка сумы — 100 мільярдаў рублёў — рэспубліка проста падарыла неплацежаздольным пакупнікам. Праўда, ён адзначыў, што Цэнтральны банк Расіі для таго, каб Беларусь змагла закупіць за расійскія рублі нафту і газ, прадаставіў 40 мільярдаў рублёў на льготных умовах. Гэтымі днямі дасягнута таксама дагаворанасць з Барысам Ельцыным і Ягорам Гайдарам на прадастаўленне беспрацэнтнага тэхнічнага крэдыту яшчэ ў размеры 20 мільярдаў рублёў. У той жа час расійскі ўрад не мае намеру ўзяць на сябе аплату прадукцыі, пастаўленай канкрэтным суб'ектам Расіі. Пакупнікі ж беларускай прадукцыі, у сваю чаргу, не хочуць браць крэдыты для правядзення ўзаемазаліку.

**Уладзімір ГЛОД,**
**Ларыса ЛАЗАР,**
**Аляксандр ЛІМАНОЎСКІ,**
**парламенцкія карэспандэнты БЕЛІНФАРМа.**

## ФАКТ ФАКТ

Адбылося пасяджэнне прэзідыума савета Федэрацыі прафсаюзаў. Разгледжана пытанне аб ходзе выканання праграмы занятасці насельніцтва рэспублікі. У бліжэйшыя два месяцы, паводле, прагнозаў, да 20-ці тысяч людзей будуць скарочаны. Прафсаюзы прапануюць канкрэтныя меры барацьбы з беспрацоўем: удасканаленне страхавых фондаў і кас па беспрацоўю, больш рэзультатыўнае выкарыстанне калектыўных дагавораў і тарыфных пагадненняў.

***

Мінгарвыканком дазволіў Мінскаму гарадскому камітэту партыі камуністаў Беларусі правесці 7 лістапада мітынг і дэманстрацыю, прысвечаныя 75-й гадавіне памятнай усяму свету падзеі, Арганізатарам мерапрыемства дазволена сабрацца на плошчы Незалежнасці, ускласці кветкі да помніка Леніну і прайсці калонамі па праспекту Скарыны да плошчы Перамогі. У парку імя Горкага адбудзецца мітынг.

***

Новы ўсеяпонскі рэкорд скорасці для пасажырскіх паяздоў раўняецца 352 кіламетры ў гадзіну. «Рэкардсменам» стаў доследны прататып скораснага поезда будучыні.

## ЖУРНАЛІСТЫ І НАЦЫЯНАЛЬНАЕ АДРАДЖЭННЕ

**Нацыянальна-культурнае Адраджэнне і сродкі масавай інфармацыі — такая тэма рэспубліканскай нарады рэдактараў газет і часопісаў, якая адбылася 29 кастрычніка ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь.**

Уступным словам нараду адкрыў міністр інфармацыі Анатоль Бутэвіч. Яго прамова была прысвечана не толькі задачам, што стаяць перад журналісцкімі калектывамі, але і мерам, якія міністэрства і ўрад прымаюць у падтрымку друку.

Перад прысутнымі выступілі намеснік міністра інфармацыі Іван Карэнда, старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета рэспублікі па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны Ніл Гілевіч, намеснік старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека Анатоль Вярцінскі, вучоныя Адам Мальдзіс і Леанід Лыч, старшыня Саюза журналістаў рэспублікі Леанід Екель, дэкан факультэта журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Алег Слука. Аб цяперашніх праблемах распаўсюджвання перыядычных выданняў расказалі начальнік рэспубліканскага аб'яднання «Белсаюздрук» Галіна Панфіловіч і начальнік Упраўлення паштовай сувязі і распаўсюджвання друку Аркадзь Краўцоў. Затым адбыўся абмен думкамі.

У нарадзе прыняў удзел і выступіў з прамовай намеснік Старшыні Савета Міністраў рэспублікі Міхаіл Дзямчук.

**БЕЛІНФАРМ.**

## «СТАНДАРД ОЙЛ», «МОБІЛ», «ТЭКСАКА» І «БЕЛАРУСКІ НАФТАВЫ КЛУБ»—«НАФТАВЫЯ СПРУТЫ»?

**АЙЧЫННЫ ПРЫВАТНЫ БІЗНЕС ДАПАМОЖА СВАЁЙ РЭСПУБЛІЦЫ Ў ВЫРАШЭННІ ЭНЕРГЕТЫЧНАЙ ПРАБЛЕМЫ**

Калі чуеш пастаянныя папрокі ў адрас беларускага ўрада і легкаважкія парады яму наконт таго, якую энергетычную палітыку праводзіць лепш, хочацца чамусьці адказаць своеасаблівым каламбурам: лепш за ўсё мець уласную нафту. Хто мае яе—у таго і ўсе магчымасці для сапраўды вялікай палітыкі. У каго ж энергетычных крыніц нягуста — таму толькі і застаецца, што прыстасоўвацца да абставін.

Не сакрэт, што кіраўнікі нашай эканомікі даўно ўжо імкнуцца вызваліцца з цяжкіх абдымкаў нафтавай палітыкі, праводзімай Расіяй — асноўным нашым пастаўшчыком энерганосьбітаў. Дзіва што: ці зможам мы плаціць былому «старэйшаму брату» замест 4—5 тысяч рублёў за тону «чорнага золата» ўсе 25 тысяч? А ён вось-вось гэтага запатрабуе. І што тады скажуць нашы небагатыя спажыўцы, калі замест 1 рубля 85 капеек за кілават-гадзіну яны неўзабаве будуць вымушаны «адшпільваць» за яе 15 рублёў?

У такой сітуацыі міжволі пачнеш шукаць іншых партнёраў — за морамі і акіянамі, у экзатычных Кувейце ды Саудаўскай Аравіі. Магчыма, нафтавыя шэйхі і дапамогуць, але, зразумела, не задарма. Аднак ці так ужо неабходныя далёкія вандроўкі, калі дапамогу можна адшукаць і пад бокам, у сябе дома? Частку нялёгкай ношы гатоў узяць на сябе «Беларускі нафтавы клуб»—пазадзяржаўная прадпрымальніцкая арганізацыя. Урад рэспублікі не супраць дзелавога дыялога з «клубам» і ўжо разлічвае, што той зможа забяспечыць пастаўкі ў Беларусь да адной трэці неабходных ёй аб'ёмаў нафты.

Фінансавай асновай «Беларускага нафтавага клуба» (БНК) — акцыянернага таварыства — з'явіцца прыватны капітал. Кожны з акцыянераў унясе ва ўстаўны фонд па мільёну рублёў, і ўжо можна меркаваць, што ёсць нямала жадаючых запісацца ў «нафтавыя шэйхі».

Такім чынам, «навічок» адразу прэтэндуе на ролю даволі магутнай прамыслова-фінансавай групы. Думаецца, што ёй будзе пад сілу забяспечыць увесь тэхналагічны цыкл — ад распрацоўкі нафтавых свідравін у Цюмені і іншых рэгіёнах да дастаўкі сыравіны на прадпрыемствы рэспублікі. Праблем тут, вядома, дастаткова, паколькі Сібір для нас цяпер— не блізкі свет, але ж і першыя нафтавыя каралі, скажам, тых жа ЗША, пачыналі не з амерыканскага штата Тэхас.

Словам, на шырокім полі эканамічнай дзейнасці беларускі бізнес аслупаваў яшчэ адзін участак, на гэты раз—нафтавы.

Арганізацыйнае афармленне БНК адбудзецца сёння на спецыяльным пасяджэнні яго заснавальнікаў у Саюзе прадпрымальнікаў Беларусі. Больш падрабязна пра гэту прадпрымальніцкую акцыю «Звязда» раскажа ў адным са сваіх наступных нумароў.

**Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**

## Крытыкуючы «Звязду», дэпутат Козік не меў рацыі

Пазаўчора ў час ранішняй «размінкі» ў Вярхоўным Савеце старшыня пастаяннай парламенцкай Камісіі Леанід Козік пакрытыкаваў нашу газету, а дакладней — маю нататку «Рэанімацыя КПБ: спроба рэваншу ці прапагандысцкае шоу?», змешчаную ў нумары за мінулы аўторак. Нагадаю, размова ў ёй ішла пра тое, што Вярхоўны Савет нечакана для многіх вырашыў вярнуцца да пытання аб прыпыненні дзейнасці КПБ і нацыяналізацыі яе маёмасці. У публікацыі называліся некаторыя прозвішчы дэпутатаў, якія прагаласавалі за гэту прапанову (галасаванне было паіменным). Прыгадвалася і імя Л. Козіка.

Леанід Пятровіч рашуча абверг гэты факт, зазначыўшы, што свядома галасаваў супраць уключэння такога пытання ў парадак дня. Адначасова дэпутат папрасіў, каб Сакратарыят разабраўся з гэтым паклёпам на яго.

Сакратарыят разабраўся. У канцы вячэрняга пасяджэння перад парламентам выступіў старшыня Камісіі па кантролю галасавання Аляксей Ніканчук, які, у прыватнасці, заўважыў:

**«...Непаразуменне высветлілася самім Леанідам Пятровічам і ніякіх пытанняў не засталося. Але заява зроблена ім з трыбуны афіцыйна. У ёй прагучала назва адной з нашых найшаноўнейшых газет — «Звязда». І паколькі быў прамы эфір, каб ні ў каго не засталося ніякіх сумненняў, камісія па ўзгадненню з Сакратарыятам сесіі вырашыла даць афіцыйную даведку: «Надрукаваны ў «Звяздзе» матэрыял абсалютна дакладны». ...Недавяраць камп'ютэру падстаў няма. Таму зробленая на ранішнім пасяджэнні заява з'яўляецца праблемай самога Леаніда Пятровіча».**

Застаецца пашкадаваць, што Беларускае тэлебачанне, паказаўшы выступленне Леаніда Козіка, чамусьці палічыла немэтазгодным паказваць заяву Аляксея Ніканчука, у якой абвяргаецца крытыка ў адрас «Звязды».

**Валянцін ЖДАНКО.**

**ДА КАНЦА ПАДПІСКІ ЗАСТАЛОСЯ 2 ДНІ, ІНДЭКС «ЗВЯЗДЫ» — 63850, ПАДПІСНАЯ ЦАНА НА ПАЎГОДА — 120 РУБЛЁЎ.**




ВАША ЗДАРОЎЕ

## Пра алей, малако і семечкі

**ПРАПАНУЕМ НЕКАЛЬКІ НАРОДНЫХ РЭЦЭПТАЎ АД РОЗНЫХ ХВАРОБ**

**Сродак ад грыпу.** 0,5 літра малака закіпяціць, дадаць 2 сталовыя лыжкі цыбулі, сцёртай на дробнай тарцы, крыху настояць.

Піць у цёплым выглядзе 2—3 разы на дзень пры пасцельным рэжыме. Гэта малако можна піць з мёдам.

Для дзяцей дозу паменшыць: у 1 шклянку гарачага малака апусціць 1 цыбуліну, разрэзаную на чатыры часткі. Настояць, працадзіць і даваць піць дзіцяці малако. Грып праходзіць за некалькі дзён без усялякіх ускладненняў.

**Хранічны** танзіліт вылечваецца алеем (ссаць як цукерку). Гэты метад шырока вядомы, але не ўсе ім карыстаюцца, а дарэмна. Алей — сталовую лыжку — трымаць у пярэдняй поласці роту.

Алей будзе разрэджвацца, і калі стане, як вада, выплюньце яго і паглядзіце: калі гэтая вадкасць жаўтаватага колеру, дык паўтарыце працэдуру. Лепш за ўсё яе рабіць раніцай нашча і ўвечары перад сном.

Арганізм вызваляецца ад шкодных мікробаў, наладжваецца абмен рэчываў.

**Пры адкладанні солей** нарэзаць тры яблыкі сярэдняга памеру, пакласці ў эмаліраваную каструлю, наліць туды літр вады, давесці да кіпення, дадаць цукар па смаку (можна і без цукру), настойваць ноч.

Піць на працягу наступнага дня, а ўвечары падрыхтаваць нанава. І так некалькі дзён, пакуль не адчуеце значную палёгку. Гэта адбудзецца тыдні праз два.

Зімой пры адсутнасці свежых яблыкаў выкарыстоўвайце сушаныя.

**Пры расстройстве жывата** могуць дапамагчы наступныя парады: пасаліце злёгку яечны бялок і праглыніце: у 50—100 г гарэлкі дадаць крыху чаю, настояць і выпіць.

**Пры стэнакардыі** добра дапамагаюць гарбузовыя семечкі.



## Лягчэй папярэдзіць

**Амаль кожны другі дарослы нярэдка адчувае такі моцны боль у паяснічна-крыжавой вобласці, што часова страчвае працаздольнасць. Вядомы прынцып медыцыны «Хваробу лягчэй папярэдзіць, чым лячыць» асабліва актуальны пры паяснічна-крыжавым радыкуліце.**

Калі вам даводзіцца ўзнімаць цяжар, ніколі не рабіце гэта на прамых нагах, нахіліўшы тулава наперад, інакш можа трэснуць дыск. Рабіць рэкамендуем наступным чынам: прысесці, сагнуць ногі ў каленях і, уздымаючы груз, трымаць тулава вертыкальна, і нават крыху выгнуўшы яго назад (поза штангіста). Для фізічна нетрэніраваных людзей асабліва небяспечныя рэдкія «бытавыя» падыманні цяжару (прыўзняць шафу, перанесці цяжкі мяшок). Памятайце пра гэта.

Калі вам даводзіцца доўга працаваць, стоячы на адным месцы (напрыклад, каля станка), ці, наадварот, у вас сядзячая работа, дык абавязкова праз кожныя сорак хвілін размінайце паясніцу, робячы ёю марудныя кругавыя рухі і асцярожныя нахілы ва ўсе бакі. Карысна і памасіраваць стомленыя мышцы спіны.





У час работы засцерагайцеся працяглага знаходжання ў паўсагнутай ці іншай нязручнай позе (напрыклад, нахіліўшыся да нізкага станка, да ванны пры мыцці бялізны, пры сельгасработах). Калі ж гэтага нельга пазбегнуць, дык праз кожныя пятнаццаць мінут выпроствайцеся і «размінайце» паясніцу.

Для прафілактыкі хваробы спаць лепш на цвёрдай пасцелі, таму што на мяккай пазваночнік празмерна прагінаецца і міжпазванковыя дыскі раней зношваюцца. Раніцай займайцеся спецыяльнай гімнастыкай для ўмацавання мышцаў спіны. Пра комплекс гэтых практыкаванняў вам раскажуць у кабінеце лячэбнай фізкультуры ў паліклініцы. Акрамя таго, папярэджвае і здымае боль у паясніцы плаванне.

Жанчынам трэба таксама ведаць, што ў перыяд з'яўлення ці ўзмацнення болю ў паясніцы нельга хадзіць у абутку на высокіх абцасах, паколькі пры гэтым паясніца выгінаецца наперад і нагрузка на паражоныя дыскі ўзмацняецца. І яшчэ імкніцеся пазбягаць пераахаладжэння паясніцы.

Людзям, якія ўжо хварэлі паяснічна - крыжавым радыкулітам, неабходна мець спецыяльны пояс штангіста ці карсет і надзяваць у тых выпадках, калі іх чакае нязвыклая фізічная нагрузка.

Калі пасля работы, у нязручнай позе, пераносу цяжару, пераахаладжэння ў вас з'явіўся ныючы боль у паяснічна-крыжавой вобласці, пастаўце на зону болю пярцовы пластыр ці гарчычнік (грэлку нельга) і некалькі дзён пазбягайце нахілаў і падымання цяжару (калі боль не прайшоў, звярніцеся да неўрапатолага).

Калі ж пасля падымання грузу ўзнік рэзкі боль у паясніцы (прастрэл, люмбага), пры якім цяжка хадзіць, не імкніцеся пазбавіцца ад яго хатнімі сродкамі. Звярніцеся да неўрапатолага ці выклікайце ўрача на дом. Пры моцным болю неабходна захоўваць строгі пасцельны рэжым. Лячэнне, распачатае ў першыя дні, папярэдзіць далейшае абвастрэнне хваробы.

СМАЧНА ЕСЦІ!

## Стравы з кансерваў

**Працягваем знаёмства з рэцэптамі страў з кансерваў, якія можна набыць у гандлі.**

**Боршч з кансерваў «Капуста тушаная» з геркулесам:** 1 слоік кансерваў, 1,5 л. булёну ці вады, 1—2 ст. лыжкі шматкоў «Геркулес», смятана, соль.

У кіпячы булён ці ваду пакласці аўсяныя шматкі, давесці да кіпення і вылажыць кансервы. Боршч варыць да гатоўнасці шматкоў. У канцы варкі пакласці соль. Смятана — пры падачы.



**Боршч з кансерваў «Буракі гарнірныя» і «Капуста тушаная»:** 2 слоікі кансерваў, 1—2 морквы, 1—2 цыбуліны, 1—2 лыжкі свінога тлушчу, 1 ст. лыжка таматнай пасты, 1 л булёну ці вады, 0,5 ч. лыжкі воцату, цукар, смятана, вострыя прыправы, зяленіва, соль.

Моркву здрабніць на буйной тарцы і разам з нарэзанай цыбуляй абсмажыць на свіным тлушчы, дадаўшы ў канцы таматную пасту. У кіпячы булён ці ваду пакласці агародніну, кансерваваную капусту і варыць 5 хвілін. Потым дадаць гарнірныя буракі разам з залівай (цэлыя — парэзаць), воцат, прыправы, соль, цукар. Усё давесці да кіпення і даць настояцца 5 хвілін. Зяленіва і смятана — пры падачы.

**Бурачнік з гарнірных буракоў:** 1 слоік кансерваў, 3 бульбіны, 0,5—0,7 л булёну ці вады, 1 ст. лыжку свінога тлушчу, 0,5 ч. лыжкі воцату, 2—3 памідоры ці 1—2 ст. лыжкі таматнай пасты, прыправы, цукар, соль.

У кіпячы булён ці ваду пакласці нарэзаную бульбу, варыць яе да паўгатоўнасці, потым дадаць кансервы (цэлыя буракі парэзаць) з залівай. Свежыя памідоры дробна нарэзаць і спасераваць на тлушчы, пасля чаго дадаць у бурачнік. Замест памідораў можна выкарыстаць таматную пасту. Заправіць гатуемую страву воцатам, прыправай, соллю і цукрам, давесці да кіпення і даць настояцца 5—10 хвілін.

**Суп з «Морквы гарнірнай»:** 1 слоік кансерваў, 0,5 л булёну ці вады, 2—3 бульбіны, 1 цыбуліну, 100 г варанай каўбасы, 30—40 г алею ці маргарыну, перац, пятрушка, соль.

У кіпячы булён ці ваду пакласці нарэзаную невялічкімі кубікамі бульбу і варыць да паўгатоўнасці. За гэты час спасераваць на алеі ці маргарыне цыбулю і нарэзаную дробнымі кубікамі каўбасу і апусціць у каструлю. Потым пакласці туды ж кансервы разам з залівай. Давесці да кіпення і варыць да гатоўнасці бульбы. Заправіць соллю і перцам па смаку. Пятрушка — пры падачы.

**Боршч са шчаўя з кансерваваным шчаўем:** 250 г шчаўя, 1 л булёну ці вады, 2—3 бульбіны, 1 цыбуліна, 1 ст. лыжка мукі, 1 яйцо, 30—50 г масла, смятана, соль, зяленіва.

У кіпячы булён ці ваду пакласці нарэзаную бульбу і варыць 10 хвілін. Спасераваць на масле нарэзаную цыбулю і разам са шчаўем апусціць у каструлю. Варыць 5 хвілін. Спасераваць на масле муку, развесці невялікай колькасцю вадкасці і апусціць у каструлю. Давесці ўсё да кіпення. Пры падачы пакласці ў талерку смятану, нарэзанае варанае яйка, пасыпаць зяленівам.

